**Беларускі саюз інжынэрау і тэхнікау** з'організаваўся пры Беларускай Радзе.

**Да выбарау у мястовую раду.** Ад 18-га лістапада пачынаецца рассылка запрашэньні выбірацелям аб'яуцы на выбары у назначаны тэрмін.

Пачатак фактычных выбарау у мястовую раду—23-га лістапада.

**Дадатачны перапіс насяленьня** места будзе зроблены каля 1-га сьнежня.

**Сталоука у Беларускім Доме** для курсантау беларусазнаўства адчынена ад 13-га лістапада.

Плата за сьняданьне, абед і вячэру—7 рублеу.

**Раздел сельска-гаспадарскіх машын** паміж саюзамі Беларусі пачнецца у канцы сьнежня г.г. Машыны закуплены у Нямечыне агэнтамі Маскоускага Народнага Банку.

**Саюз Коопэратывау беларускага** краю мае цяпер каля 40 мільён у грошай. У яго складзе есьць да 1000 коопэратывау, з каторых 75% —сельскіе спажыўные таварыствы.

**На чыгунцы.** Як нам паведамляюць, прыняты строгіе меры дзеля атапліваньня вагонау у пасажырскіх цягніках. Машыністы паравозау будуць адтрымліваць прэміі за эканомію апала пры максымуме працы паравоза.

**Цэнтральнае бюро прафсаюзных** саюзау места Менска да гэтага часу ужо злучыло 10 прафсаюзных саюзау.

**Многіе прафсаюзные саюзы** вядуць сталую рэгістрацыю сваіх безработных. У некаторых саюзах большая палова члену зарэгістрованы у безработные. Саюзы не могуць матэрыяльна дапамагчы сваім членам.

---

*Рэдактар-выдавец* *Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*

---



## АБВЕСТКА.

Глауны Выбарчы Комітэт гэтым даводзіць да агульнага ведама, што на падставе § 18 Палажэньня аб выбарах да Часовай Мястовай Рады, сьпіскі выбаршчыкау ва усіх 5 участках ужо зачынены.

Старшыня Глаунаго Выбарчага Комітэту В. Янчэускі.

## ГРУППА ИЗБИРАТЕЛЕЙ

устраивает

**В воскресение 16-го ноября в 6 часов вечера в Рабочем Доме** (Кафедральная пл. № 5, дом Ляховского).

**Во вторник 18-го ноября в 6 часов вечера в Интимном Театре** (Ново-Московская ул. зал „Париж").

**В четверг 20-го ноября в 6 часов вечера в Белорусской Хатке** (Конная площадь).

ПРЕДВЫБОРНЫЕ СОБРАНИЯ.

Ответственные лица: *Б. И. Беднаровіч. П. П. Кащенко. Н. К. Ярошевич. А. Ф. Ульянов.*



---

Друкарня Інвалідау, Менск.